*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 6(391) 10 ЛЮТАГА 1999 г.

### Доктару гістарычных навук, прафесару Л.М. Лычу 8 лютага 1999 года споўнілася 70 гадоў



**Шаноўны Леанід Міхайлавіч !**

Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны сардэчна віншуе Вас з днём нараджэння. Мы высока цэнім Вашу вялікую працу і барацьбу за незалежнасць нашай Беларускай дзяржавы, гістарычную праўду, нацыянальную школу і родную мову.

Шлём Вам, дарагі Леанід Міхайлавіч, нашыя найлепшыя пажаданні здароўя і поспехаў у змаганні за беларускую ідэю і шчаслівае, вольнае жыццё нашага народа.

Жыве Беларусь !

*Сакратарыят*
*Таварыства беларускай мовы*
*імя Францішка Скарыны*

### ВІЛЕНСКАЙ БЕЛАРУСКАЙ ГІМНАЗІІ

Сардэчна вітаем настаўнікаў і вучняў Беларускай гімназіі ў Вільні ад ЗБС "Бацькаўшчына"! Віншуем вас, пераемнікаў слаўных традыцый беларускай асветы ў Вільні з 80-гадовым юбілеем незабыўнай Віленскай беларускай гімназіі, якая залатой старонкаю ўвайшла ў гісторыю беларускага адраджэнцкага руху. Гімназія выхавала і скіравала ў жыццё дзеля служэння Бацькаўшчыне многіх выдатных беларускіх дзеячоў. Плён яе дзейнасці адчуваўся яшчэ доўгія гады пасля спынення існавання гэтага слыннага беларускага асяродку ў Вільні.

Хацелася, каб сённяшняе беларускае школьніцтва ў Віленскім краі пашыралася і ўздымалася на новыя вышыні. Поспехаў вам на цяжкім шляху служэння беларускай справе.

*Прэзідэнт ЗБС "Бацькаўшчына"*
*Радзім Гарэцкі*
*Старшыня Рады*
*Ганна Сурмач.*

### Вельмішаноўнае спадарства "Нашага слова" !

У № 3 пабачыў матэрыял, прысвечаны юбілею Анатоля Пятровіча Грыцкевіча — майго настаўніка і цудоўнага чалавека. Мне вельмі хацелася б, каб у вас знайшлася магчымасць на старонках "Нашага слова" надрукаваць мой верш, прысвечаны гэтаму чалавеку.

*Шчыра,*
*Мікола ЯЦКОЎ,*
*дырэктар*
*Брылёўскага сельскага*
*Дома культуры*
*Магілёўскага раёна.*
*в.Брылі.*

### Анатолю ГРЫЦКЕВІЧУ

Звычайны дзень
напрыканцы дваццатых
На нашым небе
зорку запаліў.
Мы на яе —
праз цемнату і краты
Глядзім
і нейкі чуем пераліў,
І нейкае на сэрцы
варушэнне,
І памяць пачынае
гаварыць ...
З'яўляюцца забытыя імгненні,
Цвярдзеюць беларускія карэнні
І нават адыходзяць уяўленні.
А зорка тая
ўсё ярчэй
гарыць.

## З В А Р О Т
### Камітэта па ўвядзенню помніка "Пакутнікам Беларусі" Крыжа св. Еўфрасінні Полацкай

"Мартыролаг Беларусі", "Хрысціянская злучнасць Курапаты ", "Беларуская асацыяцыя ахвяр палітычных рэпрэсій", Менскі грамадска-асветніцкі клуб "Спадчына", Міжнародны дабрачынны фонд Крыжа Еўфрасінні Полацкай стварылі камітэт па ўзвядзенню помніка "Пактнікам Беларусі".

Помнік вышынёй звыш трох метраў (павелічэнне ў 7 разоў адносна арыгінала крыжа Еўфрасінні Полацкай) мусіць быць узведзены ў 1999 г. у Курапатах, вядомых ва ўсім свеце.

Адпаведныя навуковыя работы праведзены. Зроблены разлік і распрацаваны праект. Знойдзены камень - валун вышынёй 1,5 метры, на якім будзе ўстаноўлены крыж. Сам крыж будзе адліты з ліцейнага чугуну, на якім будзе інкруставана 21 выява святых (з двух бакоў). Выявы будуць адліты з нетускнелай спецлатуні, якая імітуе золата. На бакавых гранях крыжа мяркуецца змясціць два ўрыўкі: "Покладает Офросинья чесьный кресть" і "Да не изнесеться ... нікогда же ...крестъ сий".

На валуне будзе умацавана чыгунная шыльда з надпісам "Пакутнікам Беларусі", а таксама будуць указаны тыя арганізацыі і прыватныя асобы, якія далучацца да гэтай справы і будуць спрыяць ёй сваімі ахвяраваннямі.

Звяртаемся да арганізацый, фірмаў, а таксама да грамадзянаў Беларусі і суайчыннікаў аказаць пасільную дапамогу сваім удзелам і фінансавай падтрымкай. Імёны і прозвішчы, а таксама назвы арганізацыяў і фірмаў, якія ўнеслі ахвяраванні, будуць занесены ў спецыяльную кнігу "Пакутнікі за Беларусь", адзначаны спецыяльнымі дыпломамі, а тыя, хто найбольш спрычыніўся да святое справы будуць адзначаны на шыльдзе помніка.

Кантактныя тэлефоны: 284 -18 -93 (Штыхаў Георгі Васільевіч), а таксама 235 -66-08 (Белы Анатоль Яўхімавіч). Грошы можна пералічаць на разліковы рахунак: грамадскае аб'яднанне "Спадчынаклуб" Партызанскае аддзяленне АК ПСБ г.Менска, код 386 р/р 3015002280013 з паметкай "На помнік "Пакутнікам Беларусі"; або па пошце: 220037 Менск, вул.Уральская, д.16, кв.9 Белы Анатоль Яўхімавіч.

***Аргкамітэт:** Р. Барадулін, А. Белы, А. Грыцкевіч, Л. Лыч, Г. Штыхаў, М.Кляшторная, В. Някoвіч.*

30.12.98г.

## Беларуская мова: змаганне прыносіць плён...

... але перамогу святкаваць рана. Варта больш мэтанакіравана і рашуча весці наступ на русіфікацыю і русіфікатараў.

Адзінокія галасы пратэсту супраць расейскамоўных перапісных лістоў, а таксама адчайныя заклікі байкатавання з той нагоды, маючага адбыцца перапісу насельніцтва ў Рэспубліцы Беларусь, што пачынаецца 15 лютага б.г., прымусілі ўлады ў спешным парадку надрукаваць іх беларускамоўны варыянт. Наклад відаць невялікі і, пэўна, разлічаны на тое, каб супакоіць непрымірымых прыхільнікаў роднага слова. Зараз гэтыя перапісныя лісты ў невялікай колькасці рассылаюцца ў раёны.

*Язэп Палубятка.*

Гэты нумар газеты " Наша слова" надрукаваны за грошы беларусаў Канады. Рэдакцыя газеты выказвае шчырую падзяку канадскім прыхільнікам роднага слова. Мы цвёрда верым, што пакуль мы ёсць, пакуль мы разам, датуль будзе і "Наша слова", і Беларусь.

**Шаноўная, спадарыня, Л.Сінькевіч!**




Вось прачытаў Ваш артыкул "Хроніка знішчэння беларускіх класаў у школе № 82 г. Менска".

Дарэчы, што мусіць думаць і адчуваць аб гэтае не боскай справе чалавек, якому неабыякавы лёс нашай Бацькаўшчыны, нашае нацыі?

Адвеку на гэтае зямлі з чароўнымі блакітнымі азёрамі, з рэкамі, поўнымі вады, з лясамі, дзе хаваюцца звяры і птушкі жыве працавіты люд, які годна заве сябе: крывічы-ліцьвіны-беларусы.

Яны аралі гэтую зямлю, саджалі і расцілі збожжа, гадавалі сваіх дзетак, будавалі цэрквы і касцёлы, у якіх звярталіся з любоўю да Пана нашага, каб дараваў Ён краіне нашай і нашаму люду мір і супакой, каб дапамог зрабіць дзетак нашых сапраўднымі хрысціянамі, што любяць Пана нашага і бліжняга свайго. Блаславена тая зямля, люд якой выконвае гэтыя Боскія запаветы.

Колькі людзей прытуліла наша зямля і наш люд ува ўсе часы свайго існавання. Яшчэ з старажытных часоў Вітаўта Вялікага, знайшлі прытулак сярод беларусаў габрэі, гнаныя са ўсяе Еўропы. Зямля нашая, зрабілася роднай і для татараў, выгнанцаў з Залатой Арды. А колькі маскоўцаў-стараавераў прыбегла да нас у часы падзелу маскоўскага праваслаўя. Яшчэ болей маскоўцаў з'явілася да нас у часы " савецкага" панавання.

Мусіць люд наш грэбаваў і ганьбаваў іх, моцам прымушаў размаўляць па-беларуску, забараняў атрымліваць адукацыю на роднай мове? Можа хто ведае аб такіх учынках? Тады гэтае трэба выкрываць, а не хаваць столькі часу. Але на мой погляд да чалавека іншага паходжання адносіны былі вельмі лагодныя — калі добры чалавек і не гультай, нічога благога супраць яго не мелі.

Але не усё так проста было ў існаванні сярод дзяржаў.

І на Ўсходзе і на Захадзе паўсталі моцныя суседкі, якія не супраць прыдбаць гэты ласы кавалак зямлі сабе і падпарадкаваць беларускі люд уласнаму ладу.

Гістарычныя падзеі прымусілі нас пайсці на хаўрус з адной з іх, а потым другая мацнейшая прагнула іх абедзвюх. Суседкі былі нагардлівыя і бязлітасныя да нашага люду. Яны разумелі, каб здзейсніць свае мэты, трэба прымусіць заснуць душу беларуса і ясную крыніцу — беларускую мову. І вось ужо тры стагоддзі ідзе паступовы і бязлітасны наступ на гэтую душу. Пакрысе слова беларускае знікае з школак, з кніг, з газет, з дзяржаўнага ўжытку. Не маючы падмацавання мова люду паціхае гібець і паволна гінуць.

Прыкладаў тых бязлюдскіх адносін да беларусаў на сваёй уласнай зямлі столькі, што нават мо ўжо і не трэба пералічваць. Трэба толькі выйсці на вуліцу і зайсці ў кнігарню. Пачуеш і ўбачыш уласнымі вушамі і зрэнкамі — расейскае, расейскае, расейскае ...

Зразумела, што гэтая асадніцкая палітыка на Беларусі робіцца рукамі шмат якіх прыслугачых, сярод якіх — як беларусы, гэтак прыхадні. Мы не будзем сёння разважаць аб іх, заўсёды знойдуцца тыя, хто паўстанць на бок мацнейшага, мажнейшага і ўлада аддзячыць іх за гэта грашыма, ці іншымі прывілеямі.

Будзем зараз маліцца за тых, хто паўстае за слабейшага, пакрыўджанага, пакінутага, замардаванага, хто пакутуе, бачачы, што гібее душа беларуса, што знікае пявучая, прыгожая, пяшчотная мова. Мы павінны гэта рабіць, каб Пан наш павярнуў люд наш да свае душы, каб ён даў моц і падтрымку людзям, баронячым і адраджаючым яе. Няхай Пан наш пашле тых, хто пакладзе душы свае за сяброў сваіх.

Гэты пакутны і ахвярны шлях да абуджэння і росквіту душы беларуса, а разам і роднае мовы, магчыма прыйсці толькі з любоўю ў сэрцы, дадзенай нам ад Пана нашага.

Гэта нашая зямля, мы жывём на ёй, іншая нам не патрэбная.

P.S. Шаноўная, спадарыня, Л.Сінькевіч!

Дзякуй за праўдзівы артыкул. Мужнасці і вытрымкі вам у далейшым жыцці.

*М.Ермакоў.*



№ 6(391) 10 ЛЮТАГА 1999 г. наша слова

# ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ МАТЭМАТЫЧНАЯ АЛІМПІЯДА

За апошнія гады, калі палітыка прэзідэнта і яго ўладных структураў не спрыяе ўжыванню і развіццю беларускай мовы, існуе рызыка яе забывання часткай насельніцтва, асабліва тымі, хто плануе сваю будучыню ў галіне тэхнікі, фізіка-матэматычных навук і іншых кірунках, дзе веданне беларускай мовы не з'яўляецца вызначальным. Паўстае задача аберагчы адпаведную частку маладога пакалення ад незайздроснага лёсу пераўтварэння ў манкрутаў.

З мэтай далучэння матэматычна адораных школьнікаў да роднай мовы Магілёўская абласная арганізацыя ТБМ прапанавала абласному ўпраўленню адукацыі правесці ў дадатак да традыцыйнай матэматычнай алімпіяды беларускую алімпіяду, рашэнне задач на якой вучні павінны падаваць на беларускай мове. Прапанова была прынятая і 5 студзеня 1999 года можна лічыць гістарычнай датай правядзення ў Беларусі першай беларускай матэматычнай алімпіяды ( хай сабе пакуль толькі абласнога маштабу).

Пазмагацца за прызы ТБМ сабраліся 27 навучэнцаў 9 - 11 класаў школ, гімназій і ліцэяў Магілёўшчыны, прыйшлі тыя, у каго яшчэ засталіся сілы пасля двух дзён спаборніцтву розуму і хто верыў у сваю шчаслівую зорку. Прыйшлі б і больш, але значная частка раённых каманд была ўжо ў дарозе дадому, бо пра дадатковую алімпіяду яны даведаліся толькі па прыездзе ў Магілёў і не спланавалі час на яе. Таму большасць удзельнікаў былі прадстаўнікамі навучальных устаноў абласнога цэнтра, прычым пераважна ўстаноў элітных — ліцэяў і гімназій, навучанне ў якіх цалкам расейскамоўнае. Выявілася аднак, што вучні, якія ніколі не чулі матэматыкі на беларускай мове, зусім някепска валодаюць беларускамоўнай матэматычнай тэрміналогіяй і ўвогуле беларускай мовай.

Пры падвядзенні вынікаў алімпіяды апошняе ўлічвалася не ніжэй за матэматычную якасць рашэнняў. Таму перамаглі тут не тыя, хто лепш рашае матэматычныя задачы, а тыя, хто спалучае майстэрства рашэння задач з майстэрствам выказвання сваіх думак на роднай мове. Той, хто быў першым на асноўнай алімпіядзе, тут стаў пятнаццатым. А той, хто паказаў тут лепшае рашэнне, заняў у выніку толькі шостае месца (на асноўнай алімпіядзе ён быў другім). Але яго рашэнне спадабалася журы, якое вырашыла прызначыць яму спецпрыз. Адпаведны спецпрыз быў прызначаны і за лепшае моўнае афармленне правільна рэшанай задачы.

Такім чынам, пераможцамі першай беларускай матэматычнай алімпіяды школьнікаў Магілёўскай вобласці сталі: Букарава Дзіяна (ліцэй машынабудаўнічага інстытута) — I прыз; Міхалап Рыгор (ліцэй універсітэта) — II прыз; Кавальчук Антон (ліцэй тэхналагічнага інстытута) — III прыз; Кляшчонак Павел — спецпрыз за мову; Грушэцкі Юрась — спецпрыз за матэматыку.

Запаўняючы анкеты ўдзельнікаў алімпіяды, кожны з іх павінен быў назваць прозвішчы людзей, якія навучылі іх матэматыцы і якія навучылі беларускай мове. Большасць, зразумела, пісалі прозвішчы настаўнікаў. Але на пытанне, хто навучыў беларускай мове, былі і такія адказы: бацькі і настаўнікі (Петрачэнка Алена), бацька ( Латоцін Анатоль), бабуля і дзядзька (Пракапенка Алесь). А бабруйская школьніца Тацяна Якімава адказала адным выразным словам: БАЦЬКАЎШЧЫНА, напісаўшы гэтае слова вялікімі літарамі.

Прыемна было пераканацца, што ў многіх гарадскіх школьнікаў цудоўнае валоданне беларускай мовай. Вайцянкова Алеся з 23-й магілёўскай школы нават закончыла сваё матэматычнае сачыненне вершам:

Я задачы прачытала,
Як сумела, іх рашыла.
Спадзяюся, што ўгадала
І не будзе там памылак.

Шчыра дзякую за свята!
Зноў чакаю я сустрэчы.
Не судзіце строга надта,
Бо яшчэ мы проста дзеці.

Дзякуем і мы табе, Алеся, за свята, якое ты падаравала нам і сваім вершам, і сваёй чыстай мовай. Дзякуем усім удзельнікам алімпіяды за вернасць Бацькаўшчыне, бо толькі вамі, толькі такімі, як вы, яна ўратуецца, не згіне!

І аргкамітэт беларускай алімпіяды спадзяецца на новыя сустрэчы, бо мяркуецца зрабіць гэтую алімпіяду традыцыйнай. Мяркуем таксама, што чарговы з'езд ТБМ падтрымае ідэю такіх алімпіяд і дапаможа Рэспубліканскай радзе знайсці магчымасці правядзення адпаведнай рэспубліканскай алімпіяды (не толькі па матэматыцы).

Закончыць расповед пра алімпіяду хочацца выказваннем шчырай падзякі тым людзям, якія прыхільна аднесліся да ідэі беларускай алімпіяды і спрыялі яе правядзенню: Кавалёвай Т.М., намесніку начальніка абласнога ўпраўлення адукацыі; Аўласевічу М.А., рэктару Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта; Рабзонаву П.Г., начальніку вучэбнага аддзела ўніверсітэта; Шусцікавай В.Я., начальніку аддзела фізіка-матэматычных дысцыплін абласнога ІПК; Васількову В.Г., дырэктару асацыяцыі "Кола сяброў"; Шараму І.П., кіраўніку Магілёўскага цэнтра грамадзкіх сувязяў; а таксама студэнтам 5 курса фізіка-матэматычнага факультэту ўніверсітэта Іне Івашкевіч, Алене Камковай, Наталлі Красновай, Іллe Макавецкаму і Юрыю Юр'еву за выкананне няпростых абавязкаў журы пад час здачы зімовай экзаменацыйнай сесіі.

***Міхась Булавацкі,***
***старшыня аргкамітэта алімпіяды.***

# Дыскрымінацыя беларусаў у Савецкім раёне Менска

У верасні 1998 года мой сын Антон павінен быў ісці ў першы клас. Наша сям'я марыла, каб ён пайшоў у беларускамоўную школу і атрымаў адукацыю на роднай мове. Пачынаючы з вясны 1998 года я неаднаразова звяртаўся ў Савецкі выканкам г.Менска і Савецкі аддзел народнай адукацыі г.Менска, каб вырашыць гэтае пытанне, але атрымліваў прымітыўныя адпіскі. З адказаў Савецкага аддзела народнай адукацыі вынікала, што ў Савецкім раёне г.Менска няма ніводнай беларускамоўнай школы і мой сын не можа ў Менску атрымаць поўнавартаснай беларускамоўнай адукацыі. Таму я вымушаны быў адвесці сына на вучобу ў расейскамоўную школу. Некалькі маіх сяброў таксама не змаглі даць сваім дзецям адукацыю на роднай нам беларускай мове. Лічу гэта парушэннем маіх канстытуцыйных правоў і фактам дэскрымінацыі беларусаў.

***Алесь Сабаленка.***
***9 студзеня 1999 г.***

# "З чужой моўнай практыкі..."

**Павел Сцяцко,**
*доктар філалагічных навук, прафесар, старшыня Гарадзенскай абласной рады ТБМ імя Францішка Скарыны*

Працяг

***Найманне, найманы, наймiт — а не наём, наёмны, наёмнік.*** Словы з каранёваю часткаю ***-ём-*** для беларускае мовы не характэрныя; параўн: ***Подьём, уздым, падыманне, падніманне, падняцце; Выем (выемка чего-л.) выманне*** ды пад. У "Беларуска-расейскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн.,1926.С.181) чытаем: ***"Найманьне н. наём; найманы — наёмный, наймiт — наёмник, наймы — наём"***. Гэта ў пэўнай ступені знайшло свой адбітак і ў акадэмічным "Русско-белорусском словаре" 1953-г. пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы і П.Глебкі, дзе на с.278 чытаем: "***Наём м. 1.Наймы, -маў, ед. найм***; ***сдавать в наём — здаваць у наймы; 2. (действие) Найманне; наём рабочей силы — найманне рабочай сілы; Наёмка ж. разг. найманне. Наёмник — наймiт, наёмница — наймічка, наймітка; Наёмщик — наймальнік; наёмная дача — найманая дача***". Але ў пазнейшых перавыданнях гэтага слоўніка ўсё больш бачым гэтых "***ёмаў***". Так, у РБС-93 ужо чытаем: "***Наём м. І.Наём; здаваць у наём; наёмный — наёмны" (Т.2.С.119).***

Між тым у нацыянальным друку бачым: ***"Найманае войска"*** — загаловак раздзела ў кн.: Г.М.Сагановіч. Войска Вялікага Княства Літоўскага ў 16-17 стст. (Мн.,1994.С.І.).

Гэтая тэндэнцыя — вярнуць беларускай мове натуральнае аблічча яе словаў — паступова знаходзіць свой адбітак і ў даведніках (энцыклапедыях, слоўніках). Напрыклад, у БРС-89 чытаем: "***падымальны — подъёмный, падыманне — подъём; выманне — выемка, выем*** (БРС-88) ды падобныя.

***Травень і май***. У беларускай мове ўсе назвы месяцаў — свае, славянскія, празрыстаматываваныя, толькі пяты месяц мае дзве назвы: славянскую ***травень*** і пазычаную ***май***. Як даводзяць этымолагі, слова ***май***, вядомае старажытнарускай і стараславянскай мовам, прыйшло сюды з лацінскай праз грэцкую мову (М.Фасмар. Этимологический словарь русского языка. Т.2.М.-,1967.С.559). Беларускія слоўнікі 20-х гадоў фіксавалі абодва словы В.Ластоўскі падае: "***Май***, пяты месяц у годзе; ***травень, май***" (ПРК (б) С.с.314). "Беларуска-расійскі слоўнік" М.-Байкова і С.Некрашэвіча (Мн.,1926): "***Май*** м. -І) ***май***; 2) берёзки в день Тройцы" (с.164). "***Травень*** м. — ***май*** (с.314).

Пазнейшыя перакладныя слоўнікі змяшчаюць на сваіх старонках толькі ***май*** у абедзвюх частках. "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т.5.Кн.І.Мн.,-1983.С.502) зафіксаваў: "***Травень, -я,м***. Устарэлая назва месяца ***мая***". Падаецца тут і вытворнае ад яго слова: "***Травеньскі, — ая, — ае***. Які мае адносіны да ***травеня***, які адбываецца ў ***травені***. Быў помніцца, ясны ***травеньскі*** вечар. Караткевіч".

Слова ***май*** замацавалі ў савецкіх слоўніках, каб не было адрознення ў назве гэтага месяца з усесаюзным стандартам. Але ж у расейскай мове ўсе назвы месяцаў — іншамоўныя, пазычанні, тымчасам як у беларускай (і ў іншых славянскіх мовах) уласныя, славянскія. Таму падчас нацыянальна-культурнага адраджэння ў незалежнай Рэспубліцы Беларусь сталі выкарыстоўвацца на месцы пазычанага слова ***май*** уласнае ўтварэнне ***травень***. Напрыклад: "Галоўныя сілы пачалі рухацца з Масквы 15 ***траўня*** 1654 г." (Генадзь Сагановіч. Невядомая вайна. Мн.,-1995.С.14); "Наша слова. № 17(351). 6 ***траўня*** 1998г."; "Пагоня.№37(314).21 ***траўня*** 1998г". "29 ***траўня*** бягучага года рэдакцыя прыватнай газеты "Наша Ніва" атрымала папярэджанне ад Дзяржаўнага камітэта па друку ..." (Сяргей Запрудскі. Правапісныя рэформы ў славянскіх літаратурных мовах у 20 стагоддзі. 12 Міжнародны з"езд славістаў. Даклады. - Мн.,-1998.-С.18). Дарэчы, сучасныя слоўнікі ўкраінскай мовы падаюць слова ***травень*** як адзіную назву пятага месяца, хоць "Русско-украинский словарь" 1955 года яшчэ фіксаваў: "***Май — травень, -вня; (изредка) май; Первое Мая — Перше Травня***" (С.232).

Ужыванне слова ***травень*** (на месцы ***май***) аднаўляе ранейшую традыцыю карыстання сваімі зразумелымі назвамі месяцаў, у якіх (назвах) адбіўся шматвяковы досвед беларусаў, іх пільная ўвага да адметнасці прыроднага цыклу пораў году. ***Травень*** — травяністы, багаты на траву, апошні месяц вясны, пара сенакосу. Структуру яго (з суфіксам -ень) тая самая, што і ў астатніх 6 назвах: студзень, чэрвень, ліпень, жнівень, верасень, снежань.

***Ходнік і тратуар***. Слова ***ходнік*** з значэннем "дарожка для пешаходаў па баках вуліцы, плошчы" здаўна бытавала ў беларускай мове, яно празрыстаматываванае — "месца для хады" ( а не язды), мае шмат аднакаранёвых словаў: ***хада, хадзіць, хадак, хадок, хадня***, ***пешаход*** ды іншыя. Гэтым словам — ***ходнік*** — называюць і вузкі доўгі дыванок з грубай тканіны, які рассцілаецца на падлозе (па ім ходзяць). Абодва гэтыя значэнні зафіксаваў у слова ***ходнік*** "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т.4.Мн.,-1980.С.208). Праўда, яно тут мае памету "размоўнае", перавага аддаецца вельмі "прэстыжным" — пазычаным словам ***тратуар*** (з франц.) і ***палавік*** (з рас. ***половик*** — ад пол "падлога"). Слова ходнік як адэкват рас. тротуар засведчыў В.Ластоўскі (ПРК(б) С.С.712).

Перакладныя акадэмічныя слоўнікі не падаюць гэтага слова (***ходнік***) як адзінкі літаратурнае мовы, а толькі ***тратуар***. Праўда, у двухтомавым "Беларуска-рускім слоўніку" яно фіксуецца, але толькі як дыялектнае: "***Ходнік***, м.обл.-см.***тратуар***" (Т.2.Мн.,-1989.-С.669). "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн.,-1926) не падае ніводнага з гэтых словаў (***ходнік***, ***тратуар***). Відаць, слова ***ходнік*** было выгнанае з гэтага слоўніка таму, што яно ўласціве польскай мове, а ***тратуар*** — народнай мове невядомае, да таго ж яго гучанне парушае гармонію гукаў (збег галосных ***уа***, недарэмна ў жывой мове пачуеш: ***пратувар ці тратувар).***

Слова ***ходнік*** — натуральнае сваямоўнае ўтварэнне ад ***хадзіць*** (ён ***ходзіць***): ***ходнік***. Яно з знач. "***тратуар***" уласціве многім славянскім мовам: польск. ***chodnik***, чэск. ***chodnik***, славацк. ***chodnik*** ды інш. Яго рэгіструе (з паметкай "разм.") і нарматыўны "Слоўнік беларускай мовы. Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне" (Мн.,-1987.С.855). А вось новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн.,1996) праігнараваў гэтае слова, падаўшы на месцы двухзначнае слова ходнік лексемы-пазычанні ***тратуар і палавік.***

*(Працяг у наст. нумары)*



## Новае выданне ЗБС "Бацькаўшчына"!

Напрыканцы мінулага года, дзякуючы фундуму сябра рады "Згуртавання беларусаў свету", прэзідэнта фонду імя Крыжа Еўфрасінні Полацкай Анатоля Селівончыка пабачыло свет новае выданне "ЗБС" "Бацькаўшчына". Гэта шыкоўны набор каляровых шырокафарматных рэпрадукцый з выявамі унікальных полацкіх фрэсак XII ст., адкрытых беларускімі рэстаўратарамі.



На вокладцы набору чытаем наступнае: "Спасаўская царква 12 ст. у Полацаку. Насьценны жывапіс. Полацак 1998". Вядомы менскі мастак - рэстаўратар Уладзімір Ракіцкі, які з 1992 года нястомна працуе над узнаўленнем старажытных фрэсак Спаса-Ефрасіннеўскай царквы, і з'яўляецца ўкладальнікам гэтага ўнікальнага набору, дзе кожная рэпрадукцыя мае тлумачальны надпіс на беларускай і ангельскай мовах. Палова фрэсак, асабліва з келлі самой Ефрасінні, Полацкай друкуецца ўпершыню. Вялікую цікавасць таксама ўяўляюць падоўжаны і папярэчны разрэзы царквы XII ст. з замалёўкай стану жывапісу перад рэстрацыяй зробленыя аўтарам у 1944 годзе.



*Алег Трусаў.*

## Сустрэча ў Санкт-Пецярбурзе

17 студзеня 199 г. мне давялося мець больш чым двухгадзінную сустрэчу з актывістамі Санкт-Пецярбургскай арганізацыі ТБМ начале з вядомым беларускім гісторыкам, які ўжо шмат год жыве ў Расеі — Валянцінам Грыцкевічам.

Пад час спаткання прысутныя атрымалі падрабязную інфармацыю аб дзейнасці ТБМ і іншых дэмакратычных грамадскіх арганізацый на Беларусі.

Сярод актывістаў ТБМ, што стала жывуць у былой сталіцы Расеі ёсць людзі розных прафесій, узросту і нацыянальнасцяў. Цікава, што яны не забылі, а некаторыя нават вывучылі беларускую мову і, практычна, вольна ёй карыстаюцца. Людзі шкадуюць, што не маюць доступу да беларускіх газет і кніжак, якіх тут немагчыма выпісаць ці купіць. Дарэчы, раней гэта магчымасць зрэдку была, а зараз, не глядзячы на бясконцы лямант аб "інтаграцыі", гэта цалкам немагчыма. Нават лісты з Беларусі ідуць вельмі доўга і часта губляюцца, нягледзячы на высокі кошт дастаўкі.

Таму сябры ТБМ з Санкт-Пецярбургу і былі вельмі ўдзячныя за прывезеныя апошнія нумары газеты "Наша слова", значкі ТБМ і беларускія каляндарыкі на 1999 год з выявай бітвы над Воршай. Усе прысутныя паставілі свае асабістыя подпісы пад зваротам да беларускіх улад з патрабаваннем адкрыць Беларускі Нацыянальны універсітэт, а сем чалавек унеслі свае грашовыя ахвяраванні на ажыццяўленне дзейнасці ТБМ на Беларусі.

На будучы з'езд ТБМ было абрана прысутнымі два дэлегаты: гісторык, дацэнт Валянцін Грыцкевіч і пісьменнік Анатоль Кірвель.

*Алег Трусаў,*
*першы намеснік Старшыні ТБМ.*

## Выйшаў 30-ты нумар "Байрама"

12 студзеня 1999 г. у памяшканні музея імя Якуба Коласа ў Менску адбылася ўрачыстая імпрэза з нагоды выхаду ў свет юбілейнага, трыццатага нумара квартальніка беларускага згуртавання татараў — мусульман "Аль-Кітаб".

На ёй прысутнічалі народныя пісьменнікі Беларусі Янка Брыль і Ніл Гілевіч, турэцкі пасол, шмат вядомых дзеячоў беларускага і татарскага адраджэння. Была ўшанавана светлая памяць вядомага беларускага энцыклапедыста, першага рэдактара і заснавальніка квартальніка "Байрам" Якуба Якубоўскага, сябра БСДГ і ТБМ.

Між іншым, у апошнім нумары "Байрама" змешчаны: спачуванне партыі БСДГ і слова ўшанавання памяці сп.Якубоўскага сказаная на мітынгу ТБМ 16 верасня ў Менску, надрукаваныя ў газеце "Наша слова" № 37 за 1998 год і Беларуска-расейскі слоўнік татарскіх імёнаў складзены Я.А.Якубоўскім.

*Алег Трусаў.*

## "Чужы ПУШКІН "

**"І доўга буду тым**
**прыязны я народу,**
**Што лірай добрыя**
**пачуцці абуджаў..."**

**"Паставіў помнік**
**я сабе нерукатворны"...**
***А.С. Пушкін***
*Пераклаў*
*РыгорБарадулін.*

Закончыўся юбілейны, багаты на розныя імпрэзы год Адама Міцкевіча, пачаўся год сучасніка А. Міцкевіча другога генія А.С.Пушкіна. Дзесяць гадоў працавала пушкінская камісія, створаная яшчэ пры СССР, выходзілі кнігі паэта і пра яго. Пушкін — заўсёды таямніца, загадка. Пачаліся мерапрыемствы, прысвечаныя 200-годдзю А. Пушкіна і ў Вільні. Горад цесна звязаны з імем паэта.

У 1867 годзе генерал — інжынер расейскіх войск Аляксей Мельнікаў купіў сядзібу Маркуцце, што было ў ваколіцах Вільні (зараз у горадзе). Тут тайна збіраліся філаматы і філарэты, сябрам якіх быў Адам Міцкевіч. А ў 1884 годзе дачка А.Мельнікава Варвара выйшла замуж за сына А.Пушкіна Рыгора, некаторы час маладыя жылі ў Міхайлаўскім, а ў 1899 годзе прадалі Міхайлаўскае Расейскай Акадэміі Навук і пераехалі ў Маркуцце, у Вільню, дзе і пражылі да апошняга дня. Рыгор памёр у 1905 г., Варвара — у 1935 г. Абодва пахаваныя побач з домам, на сямейным могільніку.

Дом Варвара запавятала аддаць пад музей А. Пушкіна, у 1940 г. тастамант быў выкананы. Яны стараліся, каб Маркуцце нагадвала ім Міхайлаўскае, стараліся зберагчы дух і настрой пушкінскай пары. З Міхайлаўскага прывезлі рэчы, багатую бібліятэку, прыналежную асабіста паэту, сцены і столь аднаго з пакояў абабітыя тканінай, вышытай рукамі міхайлаўскіх жанчын, карціны, рэдкая, унікальная мэбля.

У Маркуцце дух пушкінскай пары "вітае" і цяпер. У любую пару года тут прыгожа: узгорыстая мясцовасць, парк, сажалка, унізе бурліць Вільняле, яна тут не замярзае нават у лютыя марозы, у парку стаіць помнік паэту, капліца Мельнікавых. У Вільні нейкі час служыў і другі сын А. Пушкіна Аляксандр, у Пятніцкай царкве Петр I хрысціў Ганібала — прадзеда паэта, аб гэтым сведчыць шыльда.



**Музей А. С. Пушкіна ў Вільні**

На кожную дату, звязаную з імем паэта, з вучнямі хадзіла ў музей Пушкіна, блукалі па сцяжынках парку. Неяк у 7 класе пісалі сачыненне "Мой Пушкін". У асноўным пісалі станоўча пра паэта, аналізавалі любімыя творы, пісалі інтэрпрэтацыю верша. Адна вучаніца напісала "Чужой Пушкин". Спачатку я збянтэжылася. Вось урывак з сачынення:

"Пушкин в моей жизни познавался слезами. Когда я была маленькой, я вообше не любила стихи. Первые его произведения не были понятны мне. В них — чужая мне русская душа. Эта удивительная "баба" в "Рыбаке и рыбке", жажда золота, богатства. Я не любила его стихи, в третьем классе мне было очень трудно учить "Буря мглою небо кроет..." и "Зимнее утро". Я не могла выучить и плакала. Тогда я его возненавидела, небольшую "оттепель" к нему в мое сердце внесла моя бабушка — чистокровная русская.

Пушкин — великое, " но чужое для меня искусство" ...

Вось так адкрыта напісала свае адносіны да паэта вучаніца. У снежні ў горадзе праходзіў конкурс мастацкага чытання твораў А.Міцкевіча, наша школа падала заяўку на ўдзел, але было адмоўлена, бо ўдзельнічалі вучні толькі польскіх школ. А беларуская ніякага дачынення не мае да паэта. Вось дык парадокс, як у тым фільме "Ёсць жаданне, няма магчымасці".

У студзені праходзіў конкурс мастацкага чытання "Мой Пушкін", таксама, толькі для расейскіх школ. Але нам удзельнічаць было дазволена. У мяне асабіста багатая бібліятэка, шмат кніг пра А.Пушкіна (каля ста) зборы твораў паэта, у тым ліку і двухтомнік выбраных твораў паэта ў перакладзе на беларускую мовы лепшымі майстрамі нашай літаратуры. Гэтыя дзве кнігі для мяне вельмі дарагія, цудоўна выдадзеныя, багата ілюстраваныя. Я рыхтавала трох вучаніц, вядома, творы паэта на беларускай мове. 1 звяно (1 - 4 класы), чытала вучаніца 3 класа Э.Стральчэня верш А.Пушкіна "Жыў на свеце рыцар бедны", пераклад Яўгена Міклашэўскага. Калі яна пачала чытаць, трэба было бачыць рэакцыю і выраз твараў журы. Вядома, лепш чытаць у арыгінале.

Дарэмна я спадзявалася здзівіць прысутных гучаннем у перакладзе твораў генія.

У другім звяне ( 5 - 7 класы), вучаніца 7 класа Алена Базар прачытала ўрывак з паэмы "Цыганы", пераклад А.Куляшова. На гэты раз арганізатары конкурсу папярэдзілі камісію, каб " не спужаліся", што ўдзельнік беларускай школы будзе чытаць на беларускай мове. І ў трэцім звяне ( 8 - 9 класы), вучаніца 9 класа Таццяна Дашкевіч прачытала ўрывак з паэмы А.Пушкіна "Медны коннік", пераклад Янкі Купалы. Хоць адна з прысутных у зале сказала, што для рускага чалавека "рэжыць" вуха беларуская мова. Але Таццяна так прачытала, так данесла змест твора, што з 33 удзельнікаў у гэтым звяне заняла першае месца, выйшла пераможцай. Вось цікава, тых, хто чытае на французскай, альбо ангельскай мове, таксама палохаюцца?

У будынку нацыянальных суполак прайшла выстава малюнкаў, вучняў 3 класа "Пушкін у нацыянальнай школе", у іх выкананні прагучалі вершы паэта на беларускай мове "Маё імя памкне ў працяг..."

Вось так пачаўся год сусвета вядомага, душэўна блізкага, але чужога Пушкіна.

***Леакадзія Мілаш, г.Вільня,***
***25 студзеня 1999 г.***

## Вам, дзетвара




Нядаўна з друку выйшла новая, трэцяя па ліку, кніга лідскага паэта і празаіка Віктара Бачарова пад назвай "Калі адзвінеў званок". Яе аўтар прайшоў вялікую школу жыцця: ён працаваў грузчыкам, будаўніком, апаратарам кацельні, арматуршчыкам, камсамольскім работнікам і вось ужо 25 гадоў працуе на ніве асветы, 13 гадоў з іх — дырэктарам СШ № 13 г. Ліды.

Добра ведаючы псіхалогію дзяцей, В.Бачароў у сваёй кнізе дзвюх аповесцяў, адрасаваных школьнікам малодшага і сярэдняга ўзросту, пераносіць іх у самую любімую пару дзятвы — пару летніх канікулаў. У першай аповесці "Калі адзвінеў званок" падзеі адбываюцца ў вёсцы, дзе сустракаюцца гарадскія і сельскія школьнікі, а другая аповесць "Ура, лагер працы!" напісана ў форме дзённіка галоўнага героя і апісвае жыццё гарадскіх вучняў у выязным лагеры працы і адпачынку ў калгасе.

У кніжцы многа смешных эпізодаў, здаровага гумару, лірычных адступленняў, якія выхоўваюць любоў да роднага краю, дапамагаюць глыбей пранікнуць ва ўнутраны свет падрастаючага пакалення.

Людзі мастацтва заўсёды з вялікай удзячнасцю прымалі дапамогу ад мецанатаў, без якіх творчым натурам прыйшлося б вельмі і вельмі цяжка. Менавіта дзякуючы такім людзям і іх працоўным калектывам, а іменна: камбінат хлебапрадуктаў (дырэктар В. Вішнеўскі), МП "Ілона" (дырэктар В.Няпомнячы), ААТ "Лакафарба" (дырэктар М. Славута), ААТ "Лідабудматэрыялы" (дырэктар П. Новікаў), Лідскае ВМК (дырэктар Ул. Шляжко), ВКФ "Пегас" (дырэктар Р. Мароз), ВА "Канверсія" (дырэктар Я. Фельдман) — выйшла кніга лідскага расейскамоўнага аўтара ў перакладах на беларускую мову, зробленых мясцовымі паэтэсай Марынай Масла і празаікам Лілеяй Сазанавец. Выхад кнігі расейскага па нацыянальнасці аўтара на беларускай мове атрымаў у Лідзе станоўчы рэзананс і служыць не благім урокам для беларусаў, якія аж пішчаць, каб напісаць хоць што на "великом и могучем"

Рэдактар кнігі Міхась Мельнік, паэт, выкладчык Лідскага педвучылішча.

***Таццяна Сіцова,***
***навучэнка 4-га курса***
***Лідскага педагагічнага***
***вучылішча.***

# Споведзь

Да нас у рэдакцыю прыйшоў ліст ад старой жанчыны, змест якога звяртае нас да тэмы яўрэйскага халакосту і часоў Другой сусветнай вайны.

Мы палічылі неабходным дадаць да ліста невялічкую прадмову і назваць увесь артыкул словам "Споведзь".

*Беларусь — вечнае прытулішча гнанага адусюль яўрэйства.*
*Тут айчына Шагала, Антокальскага, Суціна, бацькаўшчына хасадызму...*
*А там, дзе такі ўздым абранага Богам народа, там, дзе адвечны яўрэй знаходзіць абжытую, абяцаную зямлю — чакай вялікае таямніцы і болю.*

*Павел Севярынец.*

Беларусь унікальная тым, што яшчэ за часы Вітаўта Вялікага дабразычліва давала прытулак пад сваю абарону шматлікім выгнаннікам і вандроўнікам з усіх канцоў свету, незалежна ад іхняга нацыянальнага паходжання. Менавіта таму гэты край быў шчодра ўзбагачаны шматлікімі культурамі, што стагоддзямі мірна суіснавалі і развіваліся на нашай зямлі. Т.зв. нацыянальныя меншасці: украінцы, яўрэі, палякі, летувісы, татары, што жылі і жывуць тут, далі, як сваім народам, так і другой сваёй радзіме — Беларусі цэлы шэраг непаўторных талентаў: пісьменнікаў, кампазітараў, мастакоў. Сярод гэтага мноства народаў менавіта лёс народу яўрэйскага, як ніводнага іншага, сваёй трагічнасцю і блуканнем у пошуках лепшае долі нагадвае перажытыя беларусамі выпрабаванні. Супольнае пражыванне і падабенства гістарычнага лёсу збліжала і яднала, здавалася б, зусім нярадасныя супольнасці. Імёны і прозвішчы апосталаў беларускай літаратуры і культуры Змітрака Бядулі, Эдуарда Самуйлёнка, Франсуа Шагала, Адама Мальдзіса кожным адукаваным беларусам успрымаюцца як свае родныя, кроўныя.

Не сакрэт, што Другая сусветная вайна стала найцяжэйшым выпрабаваннем у жыцці абодвух народаў, яўрэяў і беларусаў. На прыкладзе невялічкага абразку ўспамінаў з ліста беларускай жанчыны мы ізноў узнімаем гэтую тэму, тэму апошняй вайны, тэму чалавечай трагедыі.

P.S.: аўтарская стылістыка выкладу захавана.

"Паважаная рэдакцыя. Пішу Вам, каб праз Вашую газету можа хто знайшоўся б з добрых людзей, адгукнуўся і дапамог даведацца аб лёсе маіх дарагіх суседзяў, аб якіх нічога не чула ўжо больш за 50 год. Яны былі для мяне, як родныя, і думаю, што і дзеці іхнія, калі дзе жывуць, дык, мабыць, памятаюць, як у вайну мы хаваліся ад немцаў.

Аб сабе і аб іх раскажу падрабязна, каб калі што, дык успомнілі.

Я, Карпава Дар'я Васільеўна, нарадзілася ў 1917 годзе ў вёсцы Міхеевічы Крычаўскага раёна Магілёўскай вобласці. У гэтай жа вёсцы жылі тры сям'і яўрэяў: Свістуноў Ахроім з сынамі Фрыдманам, Рыгорам і Лейбай, якія працавалі ў вёсцы кавалямі і якіх я ведала, а таксама яшчэ дзве сям'і. (Вось, калі іхнія дзеці падрaслі, яны перабраліся ў г.Крычаў і жылі там у доме па вул. Ленінскай. Я гэта памятаю, бо калі вучылася ў Крычаве ў старэйшых класах, дык жыла ў іх (Свістуновых) два гады на кватэры і яны мне шмат у чым дапамагалі.

Калі пачалася вайна, жанчыны Свістуновы, жонка Ахроіма Бася, дачка іхняя Хася і жонка Фрыдмана Эмілія паехалі на Далёкі Усход, а мужчыны засталіся ў Крычаве, і, калі горад бамбілі немцы, яны пераехалі ізноў да нас у вёску. Там маладыя сыны Ахроіма, Фрыдман і Лейба Свістуновы ізноў сталі працаваць у кузні, бо былі вялікія рабацягі. Кузня была ад нас недалёка і яны заўсёды прыходзілі да нас, і, я памятаю казалі, што іх вось-вось забяруць немцы. Я памятала, як яны прынялі мяне ў Крычаве і сказала, каб нічога не баяліся, бо ў нас ёсць, дзе іх схаваць.

Як прыйшлі немцы, дык толькі памятаю, як хавала Лейбу і Фрыдмана то на гарышчы, то пад падлогай у хаце, а часам замыкала ў каморы. А як успомню, што, калі пры немцах не было дзе схаваць, дык давала на рукі Фрыдману дзіця свайго брата і казала: "Пан, гэта мой муж, а гэта (паказвала на Лейбу) — брат". Як успамінаю, дык і зараз усё на мне трасецца: а што, калі б тыя немцы зразумелі, што іх дураць ... Часам давала немцам яечкі, абы толькі не пыталіся (куры свае былі). Сама ведала крыху нямецкую мову, таму ўдавалася тлумачыць ім і па-нямецку.

Аднак, быў у нашай вёсцы адзін паліцай, які расказаў немцам, хто такія Свістуновы і дзе яны жылі раней, перад вайной. Калі я даведалася, што іх ужо будуць збіраць, каб затым расстраляць, то сабрала ў дарогу хлеба, сала, яечак і дапамагла перабрацца ўсім траім (Рыгору, Фрыдману і Лейбе) у партызанскі атрад, якім камандаваў Аляксей Кастроўскі.

Калі на наступны дзень прыйшоў паліцай і два немцы з ім, і запыталіся, дзе Свістуновы, я сказала, што ўжо 5 дзён як іх не бачыла, пасля чаго паліцэйскі двойчы выцяў мяне бізуном.

Праз нядоўгі час мы даведаліся, што Аляксея Кастроўскага немцы злавілі і павесілі, многіх з яго атраду пастралялі, аднак Лейба і Фрыдман Свістуновы ўратаваліся і пасля таго, як Магілёўскую вобласць вызвалілі ад немцаў, вярнуліся да нас у вёску і зноў працавалі ў кузні. Памятую, як ад Эміліі, жонкі Фрыдмана, якая жыла на Далёкім Усходзе, атрымала ліст на свой адрас і паказаўшы яго Фрыдману, убачыла, як ён спачатку разгубіўся, няведаючы, што адказаць, а затым заплакаў.

Пасля вайны тыя, хто служыў у немцаў атрымалі па заслугах: той паліцэйскі, што выдаў Свістуновых атрымаў 15 год турмы, а бургамістр сам сябе зарэзаў яшчэ да суда.

Пасля вайны Свістуновы ізноў пераехалі ў Крычаў. Фрыдман стаў жыць на вуліцы, што насіла імя героя-салдата Сірацініна, а Лейба на жаль хутка памёр. Жонка Фрыдмана Міля перабралася ў скорым часе ў Кіеў разам з дзецьмі, а ўслед за ёй туды ж скора пераехаў і сам Фрыдман. Так мы рассталіся, і пасля гэтага я іх болей ужо ніколі не бачыла. Вось і ўся гісторыя.

Калі ж засталіся і выраслі ў іх дзеткі, дык яны ўжо зараз павінны быць зусім дарослыя і можа нават сваіх маюць. Калі так, то жадаю ўсім іхнім дзецям і ўнукам, здароўя, шчасця і доўгіх гадоў жыцця.

*З надзеяй на сустрэчу, пенсіянерка Карпава Д.В., жыхарка г.Менска, 81 год.*

# І НАВУКОВЕЦ, І ШЧЫРЫ БЕЛАРУС

Хачу пазнаёміць чытачоў з цікавым чалавекам, які выдатна спалучае працу навукоўца з барацьбой за беларускасць.

Гэта — Мураўёў Генадзь Мікалаевіч. Ён лекар - патмарфолаг па адукацыі. Пасля заканчэння Менскага інстытута ў 1961 г. быў накіраваны на працу ў Навукова - даследчы інстытут анкалогіі МАЗ РБ, дзе працуе на сённяшні дзень. Яшчэ студэнтам зацікавіўся праблемай ракавых захворванняў і вырашыў прысвяціць сябе справе барацьбы з гэтай найцяжэйшай хваробай. Паслядоўна прайшоў усе ступені прафесійнага росту ад пачынаючага ўрача да кіраўніка аддзела НДІ. Ён доктар медыцынскіх навук, прафесар, акадэмік Нью-Ёрскай акадэміі навук ЗША, прэзідэнт Беларускага аддзялення міжнароднай Акадэміі паталогіі. Г.М.Мураўёў прадстаўляў Беларусь на многіх міжнародных, саюзных, рэспубліканскіх кангрэсах, з'ездах, канферэнцыях, сімпозіюмах. Неадназарова ўдзельнічаў у нарадах Сусветнай арганізацыі аховы здароўя ў якасці яе эксперта ад Беларусі.

Г.М.Мураўёў вылучаўся кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета РБ трынаццатага склікання па Чыгуначнай акрузе г.Менска. У першым і другім туры галасавання займаў першыя месцы з вялікай перавагай. На жаль выбары былі прызнаныя неадбыўшыміся.

Ён актыўны прыхільнік здаровага ладу жыцця. І хаця яму споўнілася 60 год, яго часта можна ўбачыць на футбольным полі, у басейне, у водным паходзе, на лыжах.

І яшчэ нельга не адзначыць такую адметную акалічнасць. Генадзь Мікалаевіч - шчыры беларус. Гэта яго жыццёвая пазіцыя. І дома, і на працы ён размаўляе выключна на беларускай мове. У год, калі была абвешчана незалежнасць Рэспублікі Беларусь, Генадзь Мікалаевіч пачаў рабіць пераклад з расейскай мовы на беларускую медыцынскіх тэрмінаў. Зараз такі слоўнік у рукапісным варыянце ім падрыхтаваны. Ён налічвае каля 20 000 слоў і словаспалучэнняў. На жаль у сённяшні час аб выданні такога слоўніка за дзяржаўныя сродкі і гаварыць не даводзіцца. Хочацца верыць, што праца Генадзя Мікалаевіча яшчэ будзе запатрабавана і слоўнік медыцынскіх тэрмінаў будзе надрукаваны.

Прапаную чытачам "Нашага слова" пазнаёміцца з перакладам з расейскай мовы на беларускую некаторых медыцынскіх тэрмінаў.

Аллергия - *ж.* **алергія, -гіі**
Анальгин - *м.* **анальгін, -ну**
Ангина - *ж.* **ангіна, -ны**
Антибиотик - *м.* **антыбіётык, -ку**
Антисклеротический - **антысклератычны**
Аппендицит - *м.* **апендыцыт, -ту**
Артериальное давление - **артэрыяльны ціск**
Артрит -*м.* **артрыт, -ту**
Аскорбиновая кислота - **аскарбінавая кіслата (кісліня)**
Астма -*ж.* **астма, -мы**
Астматический - **астматычны**
Банка - *ж.* **банька, -кі; ставіць банькі**
Бедренный - **сцегнавы**; бедровая кость - **сцегнавая костка**
Бедро - *н.* **сцягно, -на**
Беременность -*ж.* **цяжарнасць, -ці**
Берцовый - **галёначны**
Болезнь -*ж.* **хвароба, -бы**; болезненность - **хваравітасць, -ці**
Боль -*м.* **боль, болю**
Брюшной тиф - **чэраўны тыфус**
Вакцина -*ж.* **вакцына, -ны**; вакцинировать - **вакцынаваць**
Веко -*н.* **павека, -ка**
Венерический - **венерычны**
Висок -*ж.* **скронь, -ні**; височный - **скроневы**
Влагалище - **похва, -вы**; влагалищный - **похвенны**
Внутреннее ухо - **унутранае вуха**
Воспаление -*н.* **запаленне, -ння**; воспалительный - **запаленчы**
Гайморит -*м.* **гаймарыт, -ту**
Гангрена -*ж.* **гангрэна, -ны**
Гастрит -*м.* **гастрыт, -ту**
Горчичник -*м.* **гарчычнік, -ка**
Девственница -*ж.* **цнатлівая**; девственность (девичество) - **дзявоцкасць**
Диагноз -*м.* **дыягназ, -зу**; диогнастирование -*н.* **дыягназаванне, -ння**
Дизентерия -ж. **крываўка,-кі**; дизентерийный - **крывавачны**
Дифтерия -*ж.* **дыфтырыя, -рыі**
Доброкачественная опухоль - **дабраякасная пухліна**
Евстахиева труба - **еўстахіева труба**
Единоутробный - **адзінаўтробны**
Жар -*ж.* **гарачка**
Жаропонижающее -*м.* **гарачкапаніжаль-ны, -нага**
Железа -*ж.* **залоза, -зы**
Желудок -*м.* **страўнік, -ка**
Желчный пузырь -*м.* **капшучок, -чка**
Жизненная емкость легких - **жыццёвая ёмістасць лёгкіх**
Жир -*м.* **тлушч, -чу**; рыбий жир - **рыбны тлушч**
Заболеть ангиной - **захварэць на ангіну**
Запломбированный - **запламбаваны**
Затылок -*ж.* **патыліца, -цы**
Здравоохранение - **ахова здароўя**
Злокачественная опухоль - **злаякасная пухліна**
Зоб - *м.* **валляк,-ка**
Зрачковый - **зрэнкавы**
Зрительный нерв - **зрокавы нерв**
Зуд -*м.* **сверб, свербу**
Изжога -*ж.* **пячайка, -кі**
Икота -*ж.* **ікаўка, -кі**
Иммуноморфолог -*м.* **імунамарфолаг, га**
Инфекционный - **інфекцыйны**
Иод -*м.* **ёд, ёду**
Капельница -*ж.* **кропельніца**
Кардиолог -*м.* **кардыёлаг, -га**
Кариес -*м.* **карыёз, -зу; карыес, -су**
Кашель -*м.* **кашаль, -шлю**
Кожно-венерологический - **скурна-венералагічны**
Коклюш -*м.* **коклюш, -шу**
Корь -*м.* **адзёр, адру**
Копчик -*м.* **хвасцец, -стца**
Костный мозг - **касцявы мозг**
Крестец -*м.* **крыж, крыжа**; крестцовая кость - **крыжавая костка**
Кровезамешающие жидкости - **кровазаменныя вадксці**
Кровопотеря - **страта крыві**
Лейкоцитоз -*м.* **лейкацытоз, -зу**
Лекарственный - **лекавы**
Лодыжка -*ж.* **шчыкалатка, -кі**
Лучевая болезнь - **прамянёвая хвароба**
Лучезапястный сустав — **прамянёва-запясцевы сустаў**
Малоберцовая кость - **малагалёначная костка**
Мочевой пузырь -*м.* **капшук, -ка**
Мышца -*ж.* **цягліца, -цы**
Надпочечник -*м.* **наднырнік, -ка**
Натощак - **нашча**
Облучение -*н.* **апраменьванне, -ння**
Обморок -*ж.* **непрытомнсць, -ці,** упасть в обморок - **самлець**
Обьем циркулирующей крови - **аб'ём цыркулюючай крыві**
Одышка -*ж.* **дыхавіца, -цы; задышка, -кі**
Ожирение -*н.* **атлусценне, -ння**
Ожог -*м.* **апёк, -ку**
Озноб - *мн.* **дрыжыкі, -каў**
Онколог -*м.* **анколаг, -га**
Оплодотворение -*н.* **апладненне, -ння**
Палец -*м.* **палец, пальца**
Пах -*ж.* **пахвіна, -ны**
Печеночная недостаточность - **пячоначная недастатковасць**
Пищевод -*м.* **страваход, -да**
Плоскостопие -*ж.* **пласкаступнёвасць, -ці**
Подкожна - **падскурна**
Половая зрелость - **палавая спеласць**
Почка -*ж.* **нырка, -кі**
Псориаз - *м.* **псарыяз, псарыязу**
Радикулит -*м.* **радыкуліт, -ту**
Ревматизм -*м.* **рэўматызм, -му**
Рентгеновский снимок - **рэнтгенаўскі здымак**
Роженица -*ж.* **парадзіха, -хі**
Сердечно-сосудистый - **сардэчна-сасудзісты**
Склероз -*м.* **скляроз, -зу**
Сознание -*ж.* **прытомнасць, -ці**
Спазм -*ж.* **спазма, -мы**
Сперматозоид -*м.* **народак, -дка; жыўчык, -ка**
Столбняк -*м.* **слупняк, -ку**
Судорога -*ж.* **сутарга, -гі**
Тазобедренный сустав - **тазасцегнавы сустаў**
Терминальное состояние - **канчатковы стан**
Тошнить - **нудзіць**
Тошнота -*ж.* **млоснасць, -ці; млосць, -ці**
Туберкулез - *мн.* **сухоты, -таў**
Ультразвук -*м.* **ультрагук, -ку**
Утроба матери - **улонне мацеры**
Фельдшер -*м.* **фельчар, -ра**
Физиология - *ж.* **фізіялогія, -гіі**
Холецистит -*м.* **халецысцыт, -ту**
Хромота -*ж.* **кульгавасць, -ці**
Хрящ -*м.* **храсток, -тка**
Царапина -*ж.* **драпіна, -ны**
Цирроз -*м.* **цыроз, -зу**
Чашечка (надколенник) - *ж.* **рэнка, -кі**
Челюстной - **сківічны**
Чесотка -*ж.* **кароста, -ты**; чесоточный - **каросліва**
Шизофрения -*ж.* **шызафрэнія, -ніі**
Эпидемия гриппа - **эпідэмія грыпу**
Язычныя мышцы - **языччныя цягліцы**
Ядерный - **ядравы**

*Георг Гацкевіч, п. Лясны, Менскі р-н.*

# Аповед пра вечнага вандроўніка — беларуса

Калі нашу зямлю ўбачыш хоць раз у жыцці, — яе не забудзеш. Калі з чыстых яе крыніц вып'еш глыток вады, — прыбавіцца сіл і радасці. Калі пройдзеш па гэтай зямлі, — палюбіш яе. І ў памяці навечна застануцца яе малюнкі. А калі нарадзіўся на гэтай зямлі, то дзе б ні апынуўся, незмаўкаючы кліч сэрца будзе неадступна клікаць да лясных і азёрных даляў, да жытняга поля, да бульбы, спечанай у попеле вогнішча. Пачуеш яе жаваранкам, салаўём, хапатлівым гергетам гусей на пралёце. Немагчыма не палюбіць гэтую зямлю. Але не адразу зразумееш яе вялікую сутнасць, яе сілу, схаваныя таямніцы, шапаценне траў і лясоў. Зямля гэта незабыўная, яркая, квеценная, кліча ў свае далі, далі адвечныя, вандроўныя.

● Выстава: "Я з вечна вандроўных". Да 110-годдзя з дня нараджэння Язэпа Драздовіча ( Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі). Сын сваёй зямлі, ён праз усё жыццё пранёс любоў і адданасць невыказанай прыгажосці лясных палян і лугоў, сонечных промняў, цёплага летняга дажджу. Ён вечны вандроўнік на сваёй зямлі, вечны шукальнік яе непаўторных скарбаў.

Язэп Драздовіч (1888 - 1954) выхадзец з беззямельнай, шарачковай шляхты. Яму споўнілася 2 гады, калі памёр бацька. Сям'я Драздовічаў — маці, 5 яе сыноў і дачка, вандруе ад арэнды



да арэнды па ўсёй Дзісненшчыне. Перад вачыма хлопчыка паўстае родная зямля, квітнеючая, незабыўная. Атрымаўшы прафесійную мастацкую адукацыю ў Віленскай рысавальнай школе прафесара жывапісу І.Трутнева, Язэп Драздовіч праз усё жыццё пранёс свабоду самавыяўлення. Яго творчасць мае адметны характар: яна ўнікальная і традыцыйная, наіўная і мудрая, натхнёная, рэалістычня і сімвалічная.

Як мастак — мадэрніст Язэп Драздовіч унёс свой уклад у развіццё народнай творчасці. Маляваныя дываны — узоры прыклад выяўленчай прастаты і эстэтычнай выразнасці. Драздовіч працаваў у графіцы, жывапісе і скульптуры. Быў збіральнікам фальклору, пісьменнікам, археолагм, настаўнікам.

Над выставай працавалі: вядучыя навуковыя супрацоўнікі Таццяна Варапаева, Ірына Пахоменка і мастак Генадзь Чысты.

Выстава створана ў жанры экспедыцыйнай легенды, які дазваляе вырашыць асноўную задачу — творчае ўзнаўленне вобраза беларускага мастака Язэпа Драздовіча. Выстава вырашана ў духу сімвалізму. Галоўнымі сімваламі, якія адпавядаюць жыццёваму шляху і стану душы чалавека, з'яўляецца калыска, ручнік, крыж. Такія сімвалы адпавядалі і творчаму руху мастака.

Калыска — сімвал пачатку руху мастака ў прасторы і часе. У калысцы кожны на пэўны момант з'яўляецца чалавекам сусвету, а далей ужо справа за лёсам. Лёс мастака — вандроўніка — крыжовы шлях.

Ручнік з вытрымкамі з дзённіка Я.Драздовіча выконвае ролю павадыра па жыццёвым шляху мастака. У беларусаў ручнік меў вялікі сімвалічны сэнс — ён суправаджаў чалавека з нараджэння да самай смерці. Пачынаецца ручнікова шлях з графікі цыкла "Піншчына", якая на самой справе з'яўляецца класікай беларускай графікі, гэта невычарпальная крыніца для этнографаў і дойлідаў.

На працягу ручніковага шляху— крушынавыя кіі з паненкамі, убранымі па старасвецкай модзе, зробленыя самім мастаком.

Крыж — як старажытны сімвал сонца, сімвал скрыжавання шляхоў, зямлі і космасу — таго вымярэння, у якім існаваў Я. Драздовіч.

Усе гэтыя сімвалы пацвярджаюць асноўную дум-



ку выставы — мастак Я. Драздовіч сцвердзіў сваю існасць у сусветным вымярэнні.

*"Заўтра ... Калі дасць Бог добрую сухую пагоду — іду зноў у дарогу. Туды, дзе можна знайсці прыстанішча для працы — сваёй мастацкай ...*

*Дай жа Божа, каб усе мае надзеі збыліся..."*

*14 кастрычніка 1934 г.*

Выстава дазваляе дакрануцца да творчасці мастака, убачыць яго творы: "Краявід з замкам" (1939г.) "Лясное возера" (1939), "Месячны краявід з замкам" (1939г.). Прадстаўлены фотаздымкі дзе Язэп Драздовіч у фельчарскай школе пры шпіталі (1911г.), у мастацкай секцыі Беларускай Радашковіцкай гімназіі імя Ф.Скарыны (1927г.), пад час вучобы ў Віленскай мастацкай школе (1907 - 1908гг.), пад час службы ў войску (1917г.). Прадстаўлены работы з альбома "Піншчына": "Гумніца збожжавых стажкоў у Шаломічах" 1926 г. Папера, аловак, туш; "Вёска Марочна"; "Партрэт мужчыны ў капелюшы" 1926 г. Папера, аловак, туш. Усё гэта выявы вёсак, беларускай прыгажосці вёсак; простыя твары беларускіх сялян, але напоўненыя духам свабоды, невычэрпнай мудрасці і чысціні душы; цэрквы — неад'емная частка беларускага народа, настаўнік і абаронца.

Археалагічныя знаходкі: кафля рознакаляровая, план Навагрудскага замчышча (да калекцыі Язэпа Драздовіча), мастацкія замалёўкі. Працаваў Язэп Драздовіч і з дрэвам: стылізаваная постаць асілка, 1933 (дрэва, разьба), табакерка, 1930 (дрэва, разьба), партрэт паэта Міхася Машары, 1933 (дрэва, разьба), партрэт збіральніка беларускай народнай музыкі А. Грыневіча, 1933 (дрэва, разьба), партрэт Я.Пачопкі, 1933г.

Талент беларускага мастака невычэрпны, ён чэрпаў яго з чыстых крыніц, з шопату птушак. А любоў і вера дапамаглі яму пранесці гэты талент праз усё жыццё.

" — ... Любоў і вера... Люблю тое, у што веру, а веру ў тое, што люблю" (19 ліст. 1933 г.).

Творчасць Язэпа Драздовіча і яе уклад у беларускую гісторыю — рэліквія. І калі акінуць здуменным поглядам хаця б невялікую частку каштоўных рэліквій мінулага, якія захавала і адкрыла нам зямля, то зразумееш, што жыццё чалавека неаддзельна ад жыцця прыроды.

***Тамара Антончык, Вольга Свінарэнка, студэнтка 305 групы БУК***

**14 лютага 1999 году споўніцца 10 год ад смерці**

# Др. ВІНЦЭНТА ЖУК - ГРЫШКЕВІЧА (1903 — 1989)

Вінцэнт Жук-Грышкевіч быў выдатным беларускім дзеячом і адыграў значную ролю ў беларускім вызвольным руху свайго часу. Дзейнасць яго абымала розныя галіны — педагагічную, навуковую, арганізацыйна-грамадскую, палітычна-дзяржаўную — і вялася, не зважаючы на пераследы, арышты, вязніцы, ссылкі, канцэнтрацыйныя лагеры.

Нарадзіўся В.Жук-Грышкевіч 10 лютага, 1903 у рыма-каталіцкай, беларускай сям'і (бацькі абое беларусы) ў мястэчку Будслаў, Вялейскага павету, Заходняй Беларусі. Вучыўся ў беларускіх гімназіях у Будславе і Вільні. У 1922 закончыў Віленскую Беларускую Гімназію і паступіў на факультэт славянскай філалогіі ўніверсітэту Карла ў Празе, які закончыў у 1926 годзе. У снежні 1932 году нострыфікаваў свой чэшскі дыплом на ўніверсітэце Сцяпана Батуры ў Вільні. У 1952 годзе абараніў на Атаўскім універсітэце ў Канадзе доктарскую дысертацыю з галіны беларускай літаратуры і атрымаў навуковую ступень доктара філасофіі з галіны літаратуры (PhD).

Першыя парасткі ягонае нацыянальнае свядомасці пачалі прарастаць ужо ў беларускай гімназіі ў Будславе, дзе ў 1918 годзе школа і ўсё мястэчка радасна святкавалі абвешчанне незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі — першае 25 САКАВІКА. Ды сапраўдный кузняй беларушчыны для будучага беларускага дзеяча была Віленская Беларуская Гімназія. Там, як ён успамінае: ***"Я вучыўся і рос пад уплывам братоў Луцкевічаў .... Антон Луцкевіч выкладаў у нашай гімназіі беларускую літаратуру. Ён прышчапіў мне любоў да беларушчыны, да мовы, прыгожага пісьменства, гісторыі ... Пазней, калі я вярнуўся з Прагі і ў 1927 годзе сам стаў настаўнікам у гэтай гімназіі ды браў чынны ўдзел у беларускім грамадскім жыцці, Антон Луцкевіч быў маім вучыцелем у грамадскай працы".***

1927 — 1939. В. Жук - Грышкевіч выкладчык гісторыі, беларускай мовы і літаратуры ў Віленскай Беларускай Гімназіі, Праваслаўнай духоўнай семінарыі і Вышэйшай школе палітычных навукаў у Вільні.

Удзельнічаў у працы "Беларускага навуковага таварыства" і "Таварыства беларускай школы"; выступаў у друку па гісторыі Беларусі. У 1935 на 6-м Агульнапольскім з'ездзе гісторыкаў выступаў з дакладам "Роля беларускіх земляў у польска-літоўскіх вуніях".

Пасля заняцця Чырвонай Арміяй Вільні ў 1939 г. арыштаваны ворганамі НКВД і засуджаны на 8 гадоў зняволення, якое адбываў у Печлагу (Комі АССР). У 1942 вызвалены па амністыі, уступіў у польскую армію ген. Андэрса. У яе складзе ўдзельнічаў у бітве супраць гітлераўцаў пад Монтэ Касіно.

У 1945 - 49 выкладчык гісторыі і псіхалогіі ў вайсковых сярэдніх школах у Італіі, потым у Англіі. Галоўны заснавальнік і першы старшыня Згуртавання Беларусаў у Вялікай Брытаніі (1946), рэдактар часопісаў "На шляху", "Беларус на чужыне".

З 1950 у Таронта стаецца душой і маторам беларуска нацыянальна-грамадскага і навуковага жыцця ў Канадзе. У газетах "Беларускі эмігрант", "Бацькаўшчына" а пасля "Беларус" піша артыкулы на літаратурныя і палітычныя тэмы. Рэдактар часопіса "Бээнэравец" і "Весткаў з Канады" — часткі газеты "Беларус".

У верасні 1953 годзе ажаніўся з студэнткай дантыстычнай хірургіі Тарантонскага універсітэта Раісай Жукоўскай.

У 1951 - 54 вядзе, заснаваны ягоным стараннем, пры ўнівэрсітэце Таронта лектарат беларусаведы. У лютым 1954 Старшыня Рады БНР. М.Абрамчык накіроўвае яго ў Мюнхэн (Нямеччыну) арганізаваць і весці беларускую секцыю радыё "Вызваленне". Вярнуўшыся ў 1956 у Таронта ён уключаецца ў беларускае жыццё Канады. Супрацоўнічае з др. В.Кэе ў апрацаванні манаграфіі ў ангельскай мове пра беларусаў Канады. У 1966 закладае Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады, і ў 1967 г. — Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва ў Канадзе, і ўзначальвае абедзве арганізацыі.

У 1967 на 2-м Кангрэсе Канадыйскіх Славянаў на Універсітэце ў Атаве дае даклад у ангельскай мове на тэму "Беларусы і канадзкая статыстыка", даказвае, што ў Канадзе беларусаў ёсць, што найменш, 50 тысяч і яны павінны фігураваць у канадскай статыстыцы.

Як старшыня Канадскага сектару Рады БНР В.Жук-Грышкевіч апрацаваў праект рэарганізацыі Рады БНР, зменаў у Статуце і стварэння нацыянальна-палітычнай бээнэраўскай арганізацыі Лігі БНР. Праект гэты, як дыскусійны матэрыял, прадставіў на 10-ай сесіі Рады БНР ў 1968 , у Нью-Ёрку. На гэтай сесіі Віцэнт Жук-Грышкевіч быў выбраны Першым заступнікам Старшыні Рады БНР, а на 11-ай сесіі ў 1970 — Старшынёй Рады БНР. На гэтым становішчы ён быў да лістапада 1982 года, амаль да 80-годдзя свайго жыцця.

Апошнім яго асягненнем трэба лічыць ягоную вядучую ролю ў пабудове ў Канадзе Беларускага памятнага Крыжа на 1000-годдзе хрысціянства ў Беларусі — першага беларускага манумента на афіцыйнай арэне за межамі Беларусі.

Зместам багатае душы Вінцэнта Жук-Грышкевіча, сына паняволенага народа, была любоў да Бацькаўшчыны-Беларусі, любоў, што дыктавала яму абавязак служэння беларускай вызвольнай справе. Ён верыў, што Бог даў яму жыццё, здароўе, здольнасці і сілы ператрываць, перажыць савецкія лагеры смерці па тое, каб аддаць сябе на змаганне за вызваленне Беларусі.

Дзяржаўная незалежнасць Беларусі, ён верыў, гэта "Conditio sine qua non" — прадмова жыцця. Без дзяржаўнае незалежнасці Беларусі беларускі народ, ягоная душа-мова, беларуская культура не змогуць выжыць, бо іх сістэматычна вынішчае акупант.

Дзяржаўная незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі, абвешчаная Актам 25 сакавіка 1918 года, была, як ён казаў, "пуцяводнай зоркай" ягонага жыцця, і павінна ёю быць для ўсяе беларускае эміграцыі, для ўсяго беларускага народа.

Сэрца Вінцэнта Жук-Грышкевіча перастала біцца 14 лютага 1989 года. Пахаваны на беларускім могільніку ў Іст Брансвіку, ЗША. Вечная Яму памяць !

У 1993 годзе ў Таронтаа, Канадзе, выйшла з друку кніга Раісы Жук-Грышкевіч "ЖЫЦЬЦЁ ВІЦЭНТА ЖУК - ГРЫШКЕВІЧА". Кніга прадстаўляе не толькі жыццё аднаго чалавека, а ў значнай меры і гісторыю беларускага руху, гісторыю Рады БНР, кідае святло на ўсё 20-ае стагоддзе.

***Раіса Жук- Грышкевіч, Канада.***

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Людміла Дзіцэвіч, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Лілея Сазанавец, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гарадзенскага аблвыканкама. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 8. 02. 99 г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова № .
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 15 000 руб., 3 мес.- 45 000 руб.
***Цана ў розніцу:*** 5 000 руб.